На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 105 (1668)
Чацвер, 12 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +20...+21, уначы — +12...+14; у Брэсце ўдзень — +23...+25, уначы — +13...+15; у Гродне ўдзень — +20...+22, уначы — +11...+13; у Віцебску ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +9...+11; у Гомелі ўдзень — +17...+19, уначы — +11...+13; у Магілёве ўдзень — +16...+18, уначы — +10...+12.
Па ўсёй краіне чакаецца сонечнае без ападкаў надвор'е.

www.meteo.by



ПУЛЬС

## «Саюзная дзяржава» — па-за судом

Суд Ленінскага раёна горада Мінска адмовіў актывістам Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ ва ўзбуджэнні іску ў адносінах да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, а таксама Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі.

Істцы прасілі суд прызнаць той факт, што Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, падпісаны 8 снежня 1999 года, карэнным чынам змяняе ўмовы іх жыцця, парушае іх канстытуцыйныя правы, а пункт першы дагавора супярэчыць першаму артыкулу Канстытуцыі Беларусі.

У прыватнасці, на думку істцоў, прыняты саюзны дагавор парушае іх правы як грамадзян: узнікла пагроза таго, што іх сыны ці ўнукі могуць стаць удзельнікамі расійскіх войнаў і лакальных "гарачых" канфліктаў. Акрамя таго, дагавор, на думку прадстаўнікоў КХП-БНФ, ставіць пад пагрозу існаванне маёмасці беларусаў, паколькі паводле дакумента на тэрыторыі сваёй краіны грамадзяне Беларусі не маюць перавагі перад грамадзянамі Расіі.

У адказы, які даслалі шасці актывістам партыі суддзі Ленінскага суда Жулікоўская, Тупік і Валевіч, паведамляецца, што гэтая справа непадведамасная суду, паколькі грамадзяне патрабуюць абскардзіць закон аб ратыфікацыі саюзнага дагавора.

З такім адказам суда не згодны намеснік старшыні КХП-БНФ Сяргей Папкоў. "Рашэнне суддзяў не адпавядае Грамадзянскаму кодэксу, — заявіў ён у інтэрв'ю БелаПАН. — Мы просім разгледзець факты парушэння нашых правоў як грамадзян краіны".

Актывісты партыі падалі скаргі на адказ суда Ленінскага раёна сталіцы ў Мінскі гарадскі суд.

**Аляксей ШЭІН, БелаПАН.**

## Дарагі базар

Як ніколі, дорага абыдзецца Беларусі сёлетні "Славянскі базар у Віцебску".

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Віцебскай дырэкцыі фестывалю, было адзначана, што агульная сума фінансавання "Базару", выдзяляемая з бюджэту Саюза Беларусі і Расіі, павінна скласці 24 мільёны расійскіх рублёў. Цікава, што беларуская доля выдаткаў упершыню ў гісторыі фестывалю значна больш за расійскую (15 і 9 мільёнаў адпаведна).

Але і гэта яшчэ не ўвесь уклад з нашага боку. 25 мільёнаў беларускіх рублёў на пачатковыя патрэбы адпусціла Міністэрства культуры Беларусі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Махляры здалі ў банк расійскія купюры, якіх няма ў абарачэнні

Пры пераліку грошай у аперацыйнай зале Брэсцкага аддзялення "Белзнешэканамбанка" знойдзены тры купюры Цэнтрабанка Расійскай Федэрацыі, якіх няма ў абарачэнні. Гэта былі 5-тысячныя купюры, выробленыя пры дапамозе камп'ютэра і каляровага струменнага прынтэра.

У Брэсце гэта ўжо другі ў бягучым годзе выпадак выяўлення неіснуючых 5-тысячных расійскіх рублёў. У першым выпадку такімі "грашыма" разлічыліся з індывідуальным прадпрымальнікам за камп'ютэр. У другім — махлярам удалося падмануць спецыялістаў. Цяпер банк праводзіць уласнае расследаванне.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## На могілках у Гомелі пашкодзілі 34 надмагільных помнікі

У ноч з 9 на 10 чэрвеня невядомыя зламыснікі пашкодзілі 34 надмагільных помнікі на могілках у Асаўцах у Гомелі.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў лічаць, што на могілках дзейнічала група маладых людзей. Яны разбуралі ўсё, што траплялa ім пад рукі. Устойлівыя па канструкцыі помнікі выцягвалі з зямлі з падмуркам і арматурай.

Тыдзень таму падобны інцыдэнт адбыўся на Навабеліцкіх могілках. Тады былі пашкоджаны 44 помнікі. Як паведамілі ў прэс-службе УУС, нягледзячы на тое, што гэтыя выпадкі падобныя, невядома, ці будуць дадзеныя факты аб'яднаныя ў адну крымінальную справу.

**Алена КАЛАЧОВА.**

## «Белтэлекам» на два месяцы зніжае тарыфы на беспарольны доступ у Інтэрнет

З надыходам лета рэспубліканскае аб'яднанне "Белтэлекам" аб'явіла аб традыцыйным зніжэнні цэн на доступ у Інтэрнет для хатніх карыстальнікаў.

Тарыф "Летні" на камутацыйны беспарольны доступ у сетку Інтэрнет уводзіцца на перыяд з 15 чэрвеня па 15 жніўня 2003 года ўключна. Як і летась, кошт карыстання Інтэрнетам будзе зніжаны ў гэты перыяд для фізічных асоб у рабочыя дні тыдня з 8 да 19 гадзін. Кошт адной хвіліны знаходжання ў сетцы ў гэты час складзе 21,8 рубля ў хвіліну, что танней за звычайны тарыф (25,6 руб./хв.) на 15 працэнтаў.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

РОЗДУМ

# «Боінг» — добры самалёт, але дзе ўзяць 47 мільёнаў долараў?

*Падчас чарговага чыноўніцкага "разносу", на гэты раз прысвечанага "стану і перспектывам развіцця грамадзянскай авіяцыі", А. Лукашэнка агучыў сенсацыйныя планы па развіцці галіны: "У бліжэйшыя тры-пяць гадоў неабходна вывесці грамадзянскую авіяцыю на сусветны ўзровень". Задаўшы прысутным рытарычнае пытанне "Мы будзем лятаць альбо хадзіць пешшу?", агучыў рашэнне наконт выдзялення грошай на набыццё першага самалёта маркі "Боінг" для кампаніі "Белавія"...*

Добрая ініцыятыва, нічога не скажаш! Нам якасныя самалёты патрэбны як паветра. З гэтым спрачацца ніхто не будзе. Я, аднак, бязмежнаму аптымізму ўсё ж такі вырашыў не паддавацца, а спытаў сябе і іншых: а адкуль будуць брацца, уласна кажучы, грошыкі? "Боінг" — цацка нятанная! Калі, напрыклад, сама авіякампанія "Белавія" вырашыла з уласных сродкаў набыць якасныя і надзейныя "Боінгі" альбо адпаведны радок з'явіўся ў дзяржаўным бюджэце — гэта адна справа. А калі сродкі выдзяляе невядома адкуль сам А. Лукашэнка — гэта справа зусім іншая.

А, дарэчы, колькі каштуе "Боінг"? Гэта не сакрэт. На афіцыйнай інтэрнет-старонцы кампаніі размешчаны падрабязны прайс-ліст. Найбольш верагодны аб'ект для пакупкі беларускім бокам — утульны і невялічкі "Боінг-737", якім, дарэчы, карыстаецца нямецкая кампанія "Люфтганза" на маршруце "Мінск—Франкфурт-на-Майне". Самы вялікі — "галавасцік" "Боінг-747". Ніжэй мы прыводзім кошты на тры тыпы самалётаў у залежнасці ад камплектацыі:

**"Боінг-737-700" — 47—55 мільёнаў долараў.**

**"Боінг-767-400ER" — 126,5—138,5 мільёна долараў.**

**"Боінг-747" — 196—215 мільёнаў долараў.**

Чым жа збіраецца падмацоўваць свае планы кіраўнік дзяржавы? Любы чалавек цудоўна разумее, што сціплая па агульнасусветных мерках прэзідэнцкая зарплата не дазваляе, мякка кажучы, набыць "Боінг". Нават толькі адзін, нават самы танны. А можа, рэзервовы фонд прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, расходы на які афіцыйна прапісаны ў бюджэце на 2003 год, будзе выкарыстаны? Нагадаем словы самога А.Лукашэнкі, сказаныя падчас верасьнёўскай прэс-канферэнцыі мінулага года:

**— У нас есть спецсчет при бюджете, резервный спецсчет, на котором сегодня порядка 20 миллионов долларов... Что касается денег от торговли оружием, пусть вас это не беспокоит — эта тема закрытая в любом государстве. Мы продаем мизер оружия. И эти деньги идут в бюджет нашего государства, для поддержания валюты — к Прокоповичу! Нашим детям! Поэтому не ищите то, чего нет".**



Я і не шукаю! Я проста спрабую зрабіць падлікі... Пакідаючы за рамкамі, дарэчы, зарплату кіраўніка дзяржавы, на якую апошні, каб прымаць узважлівыя рашэнні, павінен добра харчавацца і мець якасныя ўмовы для пражывання. Я з гэтым абсалютна згодны! Але ўключаю калькулятар ізноў. Дваццаць мільёнаў долараў з рэзервовага спецрахунку на "Боінг-737" не хопіць. Ну, дададзім, напрыклад, і тыя **4.408.790.000 рублёў** (ці каля 2 мільёнаў долараў) з дзяржаўнага бюджэту на 2003 год, якія прызначаны Дзяржаўнаму камітэту па авіяцыі Рэспублікі Беларусь... Усё роўна да 47 мільёнаў не дацягвае! Нават на самы танны "Боінг" не хапае.

Альбо я неяк не так падлічваю?

**Алесь СІЛІЧ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# «А после нас хоть потоп...»

*"Зайчик допрыгается" — этот заголовок в одной из московских газет четко отражает настроения россиян после очередного раунда переговоров о единой валюте. Как известно, ради них двое высоких эмиссаров из Первопристольной вдруг прилетели в Минск в минувшую субботу. Презрев выходной, с вице-премьером Кудриным и главой Банка России Игнатьевым лично встретился Александр Лукашенко.*

*Что за пожар? И чего теперь ждать? Ведь критично настроенные эксперты давно пророчили, что если допрыгается зайчик, то...*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**



Впрочем, переговоры о едином рубле так долго находились в вялотекущем состоянии, что усыпили даже самых пламенных защитников независимости. Белорусская сторона раз за разом заводила пластинку о паритетном управлении эмиссией — проще говоря, что деньги надо печатать на равных правах. И это помогало тянуть резину, потому что, понятное дело, так вам Москва и разгонится подпускать кого-то к печатному станку!

Но вот за кулисами интеграции что-то хрустнуло.

И, судя по всему, случилось следующее: россияне дожали Минск в вопросе об эмиссионном центре. Именно так известный финансовый эксперт **Валерий Дашкевич**, исполнительный директор "Белгазпромбанка", склонен трактовать поспешный визит москвичей и последующее заявление вице-премьера Кудрина о том, что проект соглашения о введении единой валюты с 2005 года практически готов. С самого начала идея некоего равноправного печатания денег была мертворожденной, подчеркнул Дашкевич. Теперь все права получит Банк России. И понятно, что Москва не станет утруждать себя излишними консультациями с Минском по вопросам денежно-кредитной политики.

Иначе говоря, сбываются мрачные прогнозы оппозиции насчет судьбы белорусского суверенитета? — спросил эксперта автор этих строк. Мой собеседник заметил, что Беларусь и так все эти годы по своей воле была тесно привязана к большой восточной соседке. Теперь процессы закономерно вступили в новую фазу: разругавшись почти со всем миром и подорвав экономический ресурс, официальный Минск вынужден сдавать принципиальную позицию в вопросе валютной интеграции. Иначе говоря, заключил Валерий Дашкевич, в ситуации, когда белорусское руководство может или вообще потерять власть, или получить куцую перспективу ее продления за счет дальнейшего урезания суверенности, выбор делается в пользу второго варианта. По мнению эксперта, российский истеблишмент в массе своей никогда и не воспринимал всерьез нашу независимость. Так что скушают без соли и угрызений совести.

По мнению авторитетного белорусского политолога **Валерия Карбалевича**, переход на российский рубль делает процесс, который называют интеграцией, необратимым. Если же говорить прямо, то это постепенная и неизбежная утрата белорусского суверенитета. Другое дело, что предстоит еще большой торг. Не случайно Александр Лукашенко на встрече с москвичами в минувшую субботу подчеркивал, что надо решать вопрос единой валюты в комплексе с политическими проблемами. Не исключено, что за счет растянутого во времени жертвоприношения ("зайчику" ведь отведено еще полтора года, да и потом не в один день россияне все приберут к рукам) можно не только выторговать какие-то экономические льготы, но и получить от Кремля благосклонность по вопросу третьего президентского срока.

Если эта версия верна, то, похоже, в Минске исповедуют известный принцип Людовика XV: "После нас хоть потоп".

Кстати, любопытный штрих. Наконец-то в Постоянном комитете Союзного государства достаточно уверенно заговорили, что очередное заседание Высшего госсовета состоится в белорусской столице 20—21 июля. Как помните, российская сторона всю весну волынила с этим мероприятием. Эксперты поговаривали, что Москва недовольна упрямством белорусского руководства в вопросах приватизации с участием российского капитала. И вот теперь, если ничего не переменится, Владимир Владимирович пожалует к нам собственной персоной. Наверняка же не для продолжения дискуссии о мухах и котлетах, это было бы невежливо по отношению к гостеприимным хозяевам. Остается гипотеза, что о главном уже тихо договорились. Так что прибытие российского лидера в Минск может стать въездом триумфатора на белом коне. Ведь вовлечение Беларуси в сферу российского рубля означает, что в итоге ее с потрохами всосет большой пылесос восточной соседки. Для изрядной же части электората Путина присоединение "младшей славянской сестры" — это желанный символ великодержавного ренессанса. Таким образом, договоренность о единой валюте на высшем уровне — прекрасный пиар накануне думских и президентских выборов в России.

Ну а в награду белорусской стороне милостиво проштампуют какой-нибудь выхолощенный, не обременительный для Кремля вариант союзной конституции. Она бы гроша ломаного не стоила, да прелесть в том, что даже в бутафорском виде такой документ требует референдума. А дальше догадайтесь с трех раз.

*("Белорусские новости".)*

МНЕНИЕ

# Пусть директор имеет 10.000 долларов. Но тогда рабочий должен получать не менее 3000 «зеленых»

Уважаемая редакция!

Позвольте высказать ряд замечаний по поводу материала "Позор Леонова или позор страны?", опубликованного в газете 17 мая т.г. Данный вопрос, как бы он ни решился в суде, является позором именно для нашей страны. С одной стороны, если Леонов в самом деле нечист на руку, то почему такие люди допускаются к управлению промышленными гигантами, а с другой, если за Леоновым нет никаких злоупотреблений и махинаций, то почему в нашей стране происходит подобный суд над честным человеком?

Но я хочу высказать свое мнение по другому вопросу. "Народная воля" провела миниопрос представителей различных слоев общества, сколько должен зарабатывать директор предприятия. Здесь я считаю принципиально важным, чтобы зарплата директора жестко зависела от средней зарплаты работников в целом по предприятию.

Я не согласен с высказыванием Михаила Чигиря о том, что директор должен получать как минимум 1000 долларов. А почему же не две тысячи, не три тысячи? Я бы, к примеру, хотел, чтобы директор такого предприятия получал десять тысяч долларов и более, но только при условии, что средняя зарплата на этом предприятии будет не меньше 1/3 директорской, т.е. они будут жестко взаимоувязаны.

Представляется спорным и высказывание Георгия Бадея о том, что сколько должны зарабатывать управленцы — это вопрос философский, мол, столько, сколько смогут. Что это значит? Понять невозможно. Непонятно также, почему он считает, что недавнее постановление Совета министров ограничивает зарплату руководителей, поскольку применяет коэффициент 2,5 или 3 (точно не знаю каким) по отношению к средней зарплате по предприятию. Почему же это является ограничением зарплаты директора, если средняя зарплата по предприятию не подлежит никакому ограничению?

Принятие нашим правительством такого постановления показывает, что оно находится на правильном пути в определении зарплаты директоров. Хочу предложить правительству пойти еще дальше и выступить в парламенте с инициативой об издании закона о зарплате госслужащих, в котором точно так же была бы предусмотрена привязка зарплаты министров к средней зарплате по министерствам, председателя Совета министров, депутатов, президента — к средней зарплате по республике. Ведь это так просто и вместе с тем так жизненно необходимо — обеспечить зависимость зарплаты управленцев всех уровней от конечных результатов их деятельности.

**Семен КОРУНЕЦ, житель г.Барановичи.**

КАНФЛІКТ

# Адпусцілі...

Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь М.Падгайны прыпыніў на тры месяцы выданне "Белорусской деловой газеты". Але не ў яго сілах спыніць дзейнасць рэдакцыйнага калектыву. А журналісты, як вядома, не могуць не пісаць.

На гэты раз яны папрасілі старонкі "Предпринимательской газеты", заснавальнікамі якой з'яўляюцца нейкія грамадзяне Багамолаў, Драздоў і Кавалевіч. Аддрукавалі газету не ў Беларусі, а ў Расіі — у Смаленску.

Калі машына з 15 тысячамі экземпляраў "Предпринимательской газеты" была ўжо на ўездзе ў Мінск, яе нечакана затрымала група "аператыўных супрацоўнікаў МУС". Адпусцілі толькі ў тры гадзіны ночы — пасля таго, як суправаджаючыя тыраж запатрабавалі: "Ці арыштоўвайце, ці адпускайце!".

Распаўсюджваецца "Предпринимательская газета" з матэрыяламі журналістаў рэдакцыі "БДГ" праз альтэрнатыўную сістэму.

**Святлана ПЯТРОВА.**

# Заявление в связи с корреспонденцией белорусского агентства «БелТА»

*Посольство Республики Польша приводит текст заявления пресс-секретаря Министерства иностранных дел РП Богуслава МАЕВСКОГО в связи с корреспонденцией белорусского агентства "БелТА":*

"В очередной раз польские и зарубежные средства массовой информации выражают свое отношение к вопросу о размещении американских военных баз на территории РП, опираясь на совершенно непроверенную и не соответствующую фактическому состоянию информацию. Сообщения масс-медиа основаны исключительно на спекуляциях в прессе. В двусторонних отношениях Польши и Соединенных Штатов вопрос переноса баз, частей или военной инфраструктуры с территории Западной Европы в Польшу никогда не затрагивался. Обращений с такими предложениями не было, и они не являются предметом каких-либо работ или анализа со стороны правительства Республики Польша.

Однако анализ, проведенный и распространенный белорусским агентством "БелТА", имеет более широкое измерение. Исходя из неправдивой информации, агентство выдвигает тезис о том, что для Польши эти действия являются исходным пунктом реализации "ее планов", связанных с территориальными претензиями к Беларуси. Этот тезис является проявлением крайней безответственности за свои слова, и в оценке Министерства иностранных дел Республики Польша может быть истолкован как сознательное действие во вред польско-белорусским отношениям.

Учитывая ограниченный доступ граждан Беларуси к независимой информации, распространение подобных оценок можно расценить исключительно как попытку запугать граждан Беларуси и создать напряженность между нашими народами. Следует задать себе вопрос, является ли данное действие агентства примером крайней недобросовестности представителей журналистского цеха или сознательной манипуляции властей?"

СЛОВО ЮРИСТАМ

# АБСУРД

*Похоже, два очень серьезных и весьма компетентных органа — Республиканская прокуратура и Министерство информации — объявили межведомственное соревнование: кто лучше пощекочет нервы главного редактора газеты "Народная воля"*

22 мая 2003 года министр информации М.Подгайный вынес предупреждение "Народной воле" за нарушение статьи 5 Закона о печати. Основанием для такого решения стала статья Марины Коктыш "Обвинение представляет собой бульварный детективчик". Как указано в предупреждении, "данная публикация основана на заявлении, сделанном в ходе судебного заседания обвиняемым Леоновым М.В., текст которого по ходатайству Леонова М.В. был приобщен к материалам уголовного дела".

Министерские юристы нашли (или им подсказали), что в соответствии с нормами уголовно-процессуального законодательства заявление М.В.Леонова является материалом уголовного дела. И сделали, по их мнению, логичный вывод: если это — материалы уголовного дела, то опубликование его в печати может иметь место только с письменного разрешения судьи. Следовательно, редакция допустила нарушение Закона о печати.

## Ошибка или преднамеренность?

Мы не случайно вынесли в заголовок статьи такое понятие, как абсурд. В Толковом словаре С.И.Ожегова и Н.Ю.Шведовой слово "абсурд" трактуется как нелепость, бессмыслица (стр.16).

В нашем случае мы можем говорить о юридической нелепости или бессмыслице. Почему? В тексте предупреждения прямо говорится о том, что "данная публикация основана на заявлении, сделанном в ходе судебного заседания обвиняемым Леоновым М.В.".

Как известно, судебный процесс по делу М.В.Леонова проходил в открытом режиме. Любой из присутствующих в зале судебного заседания имел возможность записать, в том числе и на диктофон, выступления всех участников процесса и в последующем использовать их по своему усмотрению. А дело суда — приобщать или не приобщать заявления участников процесса к материалам дела. К этому времени информация, которая содержится в таких заявлениях, уже стала достоянием гласности. Ее носители — десятки граждан, присутствовавших на процессе.

Следуя логике министерских юристов, каждый из таких граждан является потенциальным нарушителем, поскольку он может рассказать о судебном процессе еще десяткам граждан. Так что же, с каждого из них брать подписку о неразглашении? Абсурд!

Пойдем далее. Секретарь суда ведет подробный протокол судебного заседания, основанный на выступлениях участников процесса. Следует ли из этого заключить, что все сказанное на суде априори становится материалами уголовного дела и не подлежит оглашению без письменного разрешения судьи? Даже не юристу очевидно, что такой подход алогичен. На то и закреплен в Конституции принцип открытости судебного разбирательства (ст.114), чтобы граждане могли видеть, слышать и обсуждать ход и результаты деятельности по отправлению правосудия.

В качестве основного обоснования решения в предупреждении Министерства информации делается ссылка на пункт 14 статьи 6 Уголовно-процессуального кодекса (УПК) Республики Беларусь. В частности, в данном пункте говорится, что материалы — это "документы и предметы, являющиеся составной частью досудебного или судебного производства либо представленные для приобщения к ним".

Указанная статья относится к общим положениям кодекса и лишь разъясняет отдельные термины. И поэтому ее привязка к предупреждению, вынесенному газете, носит искусственный характер, определяемый в юриспруденции как казуистика.

Теперь перейдем непосредственно к "нарушению". Журналистка Марина Коктыш записала на диктофон заявление М.В.Леонова, которое он озвучил в судебном заседании. Можно ли признать материалом уголовного дела магнитофонную запись открытого заявления обвиняемого? Вопрос чисто риторический: конечно же, нет. Вот если бы Марина Коктыш "выкрала" заявление М.В.Леонова из папки с материалами уголовного дела и опубликовала его, тогда бы и она, и редакция отвечали по полной программе.

## Где зарыта собака?

Мы далеки от мысли, что в Министерстве информации трудятся малоквалифицированные юристы. Скорее всего, дело совсем в другом. Власть продолжает активный натиск на независимые СМИ и журналистов. Она последовательно ограничивает социально значимую информацию.

Для примера вспомним прошлогодний процесс по делу главного редактора газеты "Рабочы" Виктора Ивашкевича. Ведь не случайно суд над ним происходил в закрытом режиме. Те, кто распорядился принять это антиконституционное решение, боялись именно критической информации, которая была озвучена в ходе судебного заседания. Журналисты не имели возможности освещать этот процесс. В итоге общественность практически ничего не узнала, почему и за что был осужден Виктор Ивашкевич.

В деле с предупреждением "Народной воли" наблюдается продолжение той же тактики. Журналистам под страхом ответственности запрещают освещать ход даже открытых судебных процессов. Если это не цензура, то что?

По нашему мнению, предупреждение газете "Народная воля" не имеет под собой никаких юридических оснований. В данном случае преобладающими мотивами, похоже, стали недавние идеологические установки "на наведение порядка" в информационной сфере. Газета "Народная воля" явно не вписывается в этот "порядок": за что ей и достается от контролирующих деятельность СМИ структур.

Но мы уверены: дух журналистов "Народной воли" никто не сломит. Газета выходила, выходит и будет выходить. Всегда!

**Михаил ПАСТУХОВ, Юрий ТОПОРАШЕВ, юристы Центра правовой защиты СМИ при ОО "Белорусская ассоциация журналистов".**

ГЕНЕРАЛЬСКАЯ СХВАТКА

# Спасибо генералу Фролову за отвагу

Эти слова можно считать лейтмотивом всех без исключения писем, которые редакция "Народной воли" получила после обращения депутата Палаты представителей Валерия Фролова к гражданам с предложением сообща защищать свое конституционное право на достойную жизнь. При этом весьма своеобразно откликнулся на призыв своего бывшего сослуживца экс-министр внутренних дел, а ныне министр спорта и туризма Юрий Сиваков, мнение которого "Народная воля" также напечатала.

С подачи журналистов эту "переписку" окрестили "схваткой генералов". Но, судя по отзывам наших читателей, ситуация давно вышла за рамки личных отношений двух известных в стране людей. Подтверждением тому — увесистая пачка писем "на тему", которая по сей день продолжает расти.

Читательские отклики мы публикуем практически без редакторской правки. Ведь то, что написано искренне, от души, всегда выглядит убедительно и не нуждается в корректировке. Единственное, — уж извините, дорогие авторы, — из некоторых ваших повествований пришлось убрать "крепкие" выражения. Иначе Юрий Леонидович Сиваков сильно бы поморщился, а газетная бумага и вовсе скукожилась.

И еще одно уточнение: сегодня по решению оргкомитета, который возглавляет Валерий Фролов, создается не союз, как было написано раньше, а **Всебелорусское общественное движение "За достойную жизнь"**.

Однако вспомним, о чем же шла речь в обращении депутата В.Фролова к народу и в личном обращении после этого министра Ю.Сивакова к депутату.

Обращаясь 18 апреля к гражданам Беларуси, офицерам и прапорщикам запаса ("НВ", №71), Валерий Фролов написал, что ему горько и обидно видеть своих сослуживцев, которые оказались за бортом жизни. *"Опытные, полные сил и энергии люди стали лишними в нашем государстве"*, хотя лучшие годы своей жизни они отдали служению Отчизне. Многие из них, *"чтобы хоть как-то прокормить семью, стоят на рынках рядом с такими же бедолагами — учителями, врачами, инженерами..."*

*"Меня, как и моих коллег по депутатской группе "Республика"*, — пишет далее В. Фролов, — *возмущает такое безразличное, унизительное отношение к людям. Мы не согласны с существующей в стране социальной политикой, которая поставила белорусский народ на грань выживания. Так жить нельзя!*

*Для того чтобы сообща защитить конституционное право наших граждан на достойный уровень жизни, мы решили создать широкое общественное движение... Мы искренне рассчитываем на ваш опыт, моральную и организационную поддержку... Присоединяйтесь к нашему общему с вами делу. Присоединяйтесь к общественному движению..."*

23 апреля в "Народной воле" было напечатано "Обращение к депутату Палаты представителей Валерию Фролову", подписанное Юрием Сиваковым.

Приводим основные цитаты, которые передают содержание этого послания.

*"Извини, к великому сожалению, не поднимается рука писать "Уважаемый". Видит Бог, пишу я эти строки не по поручению свыше, а по велению личного разумения понятия офицерской чести и генеральской ответственности перед "рядовыми", солдатским потом и кровью которых мы возведены в генеральский чин. Я имею право это сказать!..*

*Перед светлой памятью Александра Иосифовича Дубко. Он в разное время был нашим наставником и старшим товарищем...*

*Не надо искать яблоко раздора! Не надо звать на баррикады и вершить революцию!*

*...Для того чтобы судить и критиковать, надо уметь создать!*

*Создать процветающий колхоз.., подняться на высший пьедестал олимпийской славы, как поднялся, думаю, по недоразумению примкнувший к тебе В.В.Парфенович.*

*...Поднимись выше своих амбиций... Одумайся и не позорь погоны.*

***Просто физрук Сиваков."***

Как известно, в демократической прессе роль главного судьи, арбитра всегда принадлежит читателям. Такова, по крайней мере, практика взаимоотношений прессы и общества в правовых государствах. Исходя из этого принципа, мы предоставляем слово многим из тех, кто решил высказаться на страницах нашей газеты.



*— Сходите в народ, генерал Сиваков!*



*— Генерал Фролов, вас, конечно же, не запугают...*

## Верность кому — Конституции или одному человеку?

С интервалом в несколько дней прочитал обращения двух генералов. Первое, в котором Валерий Фролов призывает к защите конституционных прав граждан на достойный уровень жизни, пронизано искренней заботой о гражданах своей страны. Я с уверенностью могу сказать, что это мужественный человек, который ставит задачу служения народу выше своего благосостояния, а, возможно, и жизни. Ведь после "исчезновения" в Беларуси самых активных политиков необходимо обладать мужеством, чтобы белое назвать белым, а черное — черным.

Второе обращение меня удивило. Бывший министр МВД генерал Юрий Сиваков как бы предостерегает своего товарища от "антигосударственных" действий. Интересно, с каких это пор желание депутата сделать жизнь избирателей достойной стали приравнивать к перевороту? Ведь государство существует для благополучия своего народа, а не для благополучия правителя и кучки чиновников. О баррикадах, о насильственном свержении существующей власти в обращении В. Фролова не говорится. Видимо, генералу Сивакову не понять, что многие вопросы можно решить без военных действий, без террора. А ситуация в стране такова, что если сейчас власти пойдут на честные и открытые выборы, то вряд ли получат "элегантную" победу.

Когда-то Ю. Сиваков, оправдывая свои действия, заявил, что он "человек государев". Этим все сказано. Занимая один из высоких государственных постов, он заявил не о верности Конституции или заботе о безопасности народа, а о личной преданности одному человеку. Николай Добролюбов говорил: "Привыкая делать все без рассуждений, без убеждения в истине и добре, а только по приказу, человек становится безразличным к добру и злу и без зазрения совести совершает поступки, противные нравственному чувству, оправдываясь тем, что "так приказано". Вдумайтесь в эти слова, генерал-товарищ Сиваков, сказанные в совершенно другие времена, но как верно они звучат сегодня. Ведь преданность можно проявить по-разному: одно дело — в бою с врагом, желающим поработить твою страну; другое — в "битве" с мирными демонстрантами, желающими жить лучше.

Свое обращение Ю.Сиваков начинает с упоминания о Боге. Но про какого Бога может идти речь, когда своим поведением он обожествляет лишь одного человека, делая его непогрешимым, т.к. не раздумывая готов подчиниться любому его приказу. А ведь известно, что ни в чем не ошибаться может только Бог.

Вы же, господин Сиваков, в правоте "государя" нисколько не сомневаетесь, причем призываете к этому остальных. Впрочем, не вы один в этом преуспели, все государственные СМИ который год твердят о выдающихся достижениях и правильности нашего курса. Только встает закономерный вопрос: где реальный результат почти девятилетнего правления "выдающегося хозяйственника"?

В своем обращении вы упоминаете о чести и генеральской ответственности. Но, если мне не изменяет память, четыре года назад вы назвали делом чести найти похищенного в Минске своего предшественника, тоже генерала, бывшего министра МВД Юрия Захаренко. И как ни странно, но он не разделял вашей точки зрения. И тогдашнее мнение Ю. Захаренко о ситуации в стране совпадает с сегодняшней позицией В. Фролова.

В заключение хочу пожелать настоящему генералу Валерию Фролову успехов в его трудной деятельности на благо народа.

Вот такое мое мнение, простого экономиста-колхозника.

**С уважением к коллективу "Народной воли" —**

**Сергей Владимирович ФЕДОРЧЕНКО.**
*Костюковичский район, дер. Селецкое.*

## Генерал Фролов призывает защищать людей, а не грабить

Извините, господин Сиваков, с Вами я знаком только по прессе. После того, как прочитал Ваше обращение к генералу Фролову, у меня тоже рука не поднимается написать "Уважаемый".

Ведь В.Фролов в своем обращении говорит о том, что для людей необходимо создать достойный уровень жизни, защищать Конституцию и жить по ней, а не по указам и декретам.

Депутат Фролов призывает защищать людей, а не грабить. Видимо, исходя из этого, Вы считаете, что он зовет на баррикады? Или Вы не знаете, что 50% белорусских заводов и колхозов лежат, поэтому не поступают деньги в пенсионный фонд, поэтому низкая зарплата, поэтому престарелые люди роются на помойках. Когда такое было? Никогда! По-вашему, нужно, чтобы и дальше это продолжалось? Или пора покончить с этим? Так какое же здесь "яблоко раздора"?!

Вы, конечно, за счет налогоплательщиков живете хорошо. Так сходите в народ, генерал Сиваков, и посмотрите, как живет простой люд. При этой системе станет еще хуже. Извините, генерал Сиваков, но обездоленные не на вашей стороне, а на стороне депутата Фролова.

**Николай Павлович, житель Гомеля.**

## Совесть потеряешь — не найдешь...

Юра Сиваков! В своем обращении к депутату Палаты представителей генералу Валерию Фролову ты упрекаешь его в желании создать широкое общественное движение "За достойную жизнь". Неужели, "генерал", мы в Беларуси живем так хорошо, что в нашей жизни и улучшать ничего не надо? Что, у нас нет бедных, нет голодных, нет безработных, больных и нищих? Или мы все получаем достойную зарплату, которая позволяет вовремя рассчитаться за постоянно растущие коммунальные услуги? Разве у нас ежедневно не растут цены на продукты и товары, разве у нас достойное и бесплатное медицинское обслуживание?

Ты говоришь, что "пишу я эти строки не по поручению свыше *(слава Богу, что не он тебя на это надоумил)*, а по велению личного разумения понятия офицерской чести и генеральской ответственности..."

А где же была твоя генеральская честь, честь министра внутренних дел, заместителя главы Администрации президента, когда с политической арены убрали твоего предшественника — генерала Юрия Захаренко?! Видно, честь не позволила тебе принять все необходимые меры к розыску и установлению обстоятельств похищения (убийства?) Ю.Захаренко, В.Гончара, А.Красовского и Д.Завадского. Ты подумал о матерях этих людей, об их семьях? Почему твоя совесть молчит до сих пор? Похоже, и честь, и совесть ты променял на сытую жизнь...

Как действующий министр спорта ты упрекнул трехкратного олимпийского чемпиона Владимира Парфеновича, что он якобы по недоразумению хочет бороться за лучшую жизнь.

Стыдно мне, генерал, за тебя, за то, что ты не хочешь лучшей жизни белорусскому народу.

Спасибо А.А.Дубко, что он создал процветающий колхоз. Но я знаю судьбу другого замечательного колхозного руководителя, дважды Героя Социалистического Труда Василия Константиновича Старовойтова. Честь твоя и совесть, Юра, снова тебе не позволили подать голос в его защиту? А вот голос против хорошей жизни своих соотечественников ты подаешь.

"Посмотри на свои возможности и результаты", — советуешь ты В. Фролову. Мне кажется, что словом "возможности" ты предупреждаешь, что его может постичь судьба генерала Ю.Захаренко. А может, это не предупреждение, а угроза?..

Теперь о "результатах". Ты, генерал, уверен, что результата не будет. Власть (к которой и ты принадлежишь) не допустит улучшения жизни своего народа. Не может улучшить или не хочет?

Если у власти все такие, как ты, которых кто-то по несколько раз "поднимал с обочины", куда, кстати, сам и забрасывал, а потом снова выводил в министры, то белорусскому народу придется еще долго быть бедным, голодным и бесправным.

Спасибо всем, кто не на словах, а на деле хоть что-то делает для улучшения жизни белорусов.

Спасибо Вам, генерал В.Фролов, и Вам, олимпийский чемпион В.Парфенович, за мужество, за заботу о белорусах и Беларуси.

А тебе, "просто физрук" Ю.Сиваков, хочу посоветовать твоими же словами — "одумайся и не позорь погоны!". История все рассудит, и ее суд неизбежен. Совесть потеряешь — не найдешь, честь — тоже.

**P.S.** Извини, к сожалению, не поднимается рука обращаться на "Вы".

**О.ВАЛЕВИЧ, пенсионер.**
*г. Барань Оршанского района*

## Душа кричит!

Прочитала в "Народной воле" обращение генерала Сивакова к генералу Фролову и не могу молчать. Хотя я не генерал, а женщина-пенсионерка. Душа кричит!!!

Вы, генерал Сиваков, всегда жили в материальном достатке, прав имели и имеете много. Вам не понять, как в нынешних условиях, когда пенсия 109 тысяч рублей, из которых нужно отдать за коммунальные услуги половину (вернее, 49.840 руб.), можно выжить. Куда и на что можно истратить оставшиеся 59.000 рублей, лучше знает генерал Фролов, поэтому и создает Всебелорусское общественное движение "За достойную жизнь". Вам это не нужно, так и не вступайте! Вас там не поймут, как Вы не поняли до сих пор ничего. 59.000 рублей... Вам это, генерал Сиваков, может быть, только на один обед, а мне месяц жить.

У меня 50 лет трудового стажа (ни одного дня прогула), три сберкнижки — собирала деньги под проценты для внучки. После всех деноминаций там осталось по 10 копеек. Вот что я заслужила в нашем родном государстве. Эх, генерал Сиваков!..

А генералу Фролову большое спасибо за отвагу!

**С искренним уважением к редакции "Народной воли" —**

**Ольга Александровна СМИРНОВА, пенсионерка.**
*г. Минск.*

## Уйдут в небытие запуганность и убогость

Обращаюсь к старшине-танкисту Ю.Сивакову, который преданно отслужил президенту, прошел через высокие должности и остался "просто физруком" в этой "генеральской схватке".

Генералы-солдафоны на любом посту всегда ценились в СССР и в период "расцвета" колхозного социализма в Беларуси. Нужен человек — есть должность и звание, использовали — выбросили, как старые кроссовки. Конечно, президенту нравится Ваше "будет исполнено" на любом посту, независимо от способностей и компетентности. Знает глава государства, что, как говорят в народе, преданный глупец — хуже врага, вот периодически Вас и передвигает...

Не может народ молчать, если живет все хуже и хуже. А генералы-патриоты, как депутат В.Фролов, как его группа "Республика", хотят лучшей жизни для народа. Думаю, что Всебелорусское общественное движение граждан "За достойную жизнь" будет поддержано в стране теми, кому дорога свободная, независимая, богатая и гордая Беларусь. И пусть уйдут в небытие бедность, запуганность и убогость народа! Все в союз!

Честь имею.

**Геннадий БЕДУНКЕВИЧ, полковник.**
*г. Брест.*

***

*К этим словам сложно что-либо добавить. Сотни тысяч людей устали от обещаний и хотят реализовать свое право на достойный уровень жизни, включая достаточное питание, одежду, жилье и постоянное улучшение необходимых для этого условий (ст. 21 Конституции). Все больше и больше людей избавляются от страха, свидетельством чему многочисленные письма в редакцию с указанием имен и фамилий авторов. Действительно, почему мы должны бояться говорить в полный голос то, что думаем, говорить правду в своей стране?*

*Ваши письма, уважаемые читатели, это большая моральная поддержка для организаторов Всебелорусского общественного движения **"За достойную жизнь"**. Если вы разделяете их взгляды и действительно хотите изменить свою жизнь к лучшему, пишите на адрес: **220210, г. Минск, ул. Советская, 11, Палата представителей Национального собрания Республики Беларусь. Депутатам Валерию Фролову, Владимиру Парфеновичу или Сергею Скребцу.** Не забудьте указать свои имя, отчество, фамилию, адрес и контактный телефон.*

*Информацию о поддержке движения также можно отправлять по факсу в Минске **(017) 262-95-73**.*

**Подборку подготовил Владимир ДЗЮБА.**

ПУЛЬС

## Наваполацкі «Нафтан» дбае пра экалогію

У дапаўненне да 14 мільёнаў долараў, якія асігнаваны дзяржавай на тэхнічнае пераўзбраенне ААТ "Нафтан", Наваполацкі гарвыканкам вырашыў выдзеліць яшчэ 350 мільёнаў беларускіх рублёў. Яны будуць выкарыстаныя, як сцвярджае адміністрацыя горада, выключна на прыродаахоўныя мэты.

Рэч у тым, што мадэрнізацыя вытворчасці на флагмане беларускай нафтахіміі, а па сутнасці, пераход на прынцыпова новую тэхналогію гідракрэкінгу, дазволіць не толькі паглыбіць перапрацоўку сыравіны, узняць да сусветнага ўзроўню якасць прадукцыі і яе канкурэнтаздольнасць, але і павялічыць утрыманне ў адходах вытворчасці выключна шкоднай для навакольнага асяроддзя серы.

Звесці да мінімуму яе ўздзеянне на прыроду магчыма толькі за кошт будаўніцтва спецыяльнай установкі для пераўтварэння серавадароду ў серную кіслату высокай якасці. На яе будаўніцтва і будуць расходаваныя сродкі з мясцовага бюджэту.

Прыродаахоўны эфект ад гэтых укладанняў не можа не ўражваць: выкіды ў атмасферу небяспечных для прыроды і людзей серных злучэнняў знізяцца на 1900 тон у год.

**Максім АРХІПАЎ.**

## Лёгкая прамысловасць Віцебска ідзе на дно

Панчошна-трыкатажная фабрыка "КІМ" і швейная фабрыка "Сцяг індустрыялізацыі", не атрымаўшы своечасовай дзяржаўнай падтрымкі, адчуваюць востры недахоп абаротных сродкаў і не менш вострыя праблемы з абнаўленнем тэхналагічных працэсаў і закупкай сыравіны. Абодва прадпрыемствы, нягледзячы на рэгулярнае скарачэнне персаналу, знаходзяцца на мяжы банкрутства.

Адной з галоўных прычын крызісу з'яўляецца высокая цана вырабаў, якая не адпавядае іх спажывецкім уласцівасцям, другой — няўменне рэкламаваць сваю прадукцыю. Праўда, яскравая сучасная рэклама патрабуе немалых грошай, а гэтыя выдаткі зноў жа лягуць на сабекошт і ўзнімуць цану вырабаў.

Хутчэй за ўсё лепшыя прадпрыемствы лёгкай прамысловасці Віцебска пакрысе пяройдуць у рукі расійскага капіталу, як гэта ўжо адбылося з "Белвестам".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Менінгіт пайшоў на спад

Захворванне на менінгіт у Гродне ідзе на спад. Калі раней у інфекцыйную бальніцу штодзённа паступала да 20 хворых, дык цяпер гэта не больш за 5 чалавек. Агульная лічба шпіталізаваных ад самага пачатку ўспышкі дасягнула 247 чалавек.

Зафіксаваны два выпадкі, калі пацыенты, прайшоўшыя поўны курс лячэння, пасля нейкага часу звярталіся да лекараў. "У абодвух выпадках гэта не менінгіт, а ангіна, выкліканая энтэравірусам", — гаворыць Галіна Косава, галоўны эпідэміёлаг Гродзенскага абласнога эпідэміялагічнага шпіталю.

Прычына ўспышкі менінгіту на сённяшні дзень так і не высветлена.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## Жанчына ўпала на рэйкі

Журналіст "Народнай волі" стаў сведкам надзвычайнага здарэння ў Мінскім метрапалітэне.

У мінулы аўторак прыкладна ў 11.20 на станцыі "Плошча Незалежнасці" пажылая жанчына, паслізнуўшыся, упала з платформы на рэйкі. Прысутныя пасажыры спалохаліся. Вядома ж — на рэйках высокае напружанне, небяспечнае для жыцця.

Пакуль хтосьці клікаў супрацоўнікаў станцыі, высветлілася — жанчына жывая. Яна загаласіла. Праз паўхвіліны на платформе з'явіліся супрацоўнікі міліцыі, якія закрычалі: "Нічога рукамі не кранаць, не варушыцца!" Спалоханая жанчына стаяла нерухома. Праз некалькі хвілін міліцыянеры паднялі яе на платформу.

Журналіст "Народнай волі" патэлефанаваў ва ўпраўленне Мінгарвыканкама па метрапалітэне і пацікавіўся, як часта здараюцца падобныя выпадкі. Спецыяльнай статыстыкі на гэты конт не вядзецца, адказалі там.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Пецярбургскага ўцекача затрымалі ў Гродне

Супрацоўнікамі Гродзенскага крымінальнага вышуку затрыманы 23-гадовы грамадзянін Беларусі Аляксандр Саўко, які знаходзіўся ў федэральным вышуку ў Расіі.

Нагадаем, што 12 мая два грамадзяніны Беларусі Аляксандр Саўко і Андрэй Завадскі, якія абвінавачваліся ў разбойным нападзе, уцяклі з залы раённага суда Санкт-Пецярбурга. Злачынцы імітавалі бойку, а калі кабета-канваір спрабавала іх разняць, яны яе раззброілі.

24-гадовы Андрэй Завадскі быў затрыманы ўжо праз 10 дзён пасля ўцёкаў. Ён нават не здолеў пакінуць тэррыторыю Ленінградскай вобласці. Яго "калега" аказаўся больш шчаслівым. Аляксандр Саўко дабраўся да Беларусі і пэўны час жыў у сваёй сяброўкі ў Гродне. Але тут ён хутка патрапіў у поле зроку гродзенскага крымінальнага вышуку.

Падставай для затрымання стала супадзенне арыенціровачных прыкмет злачынцы, якія былі перададзены гродзенскім міліцыянтам расійскім бокам. Само затрыманне стала вынікам сумеснай аперацыі беларускіх і расійскіх праваахоўных органаў. На кватэры, дзе пражываў Саўко, быў знойдзены пісталет Макарава, які злачынцы забралі ў канваіра.

Аляксандр Саўко перададзены расійскім праваахоўным органам.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## Пни вместо берез



На этом снимке одна из дорог Могилёвской области — "Круглое—Нежково".

Совсем недавно здесь вдоль дороги стояли изумительной красоты березы. Радовали глаз проезжающих, закрывали их от палящих лучей летнего солнца, защищали дорогу от размывания и снежных заносов, давали так необходимый всему живому кислород, поглощали пыль и вредные выхлопы транспорта.

Стояли они здесь не одно десятилетие. И не верилось, что кому-то в голову придет дикая и варварская затея их уничтожить. А теперь, как видите, здесь остались одни пни, да и те начали выкорчевывать.

Нашлись современные дикари, наделенные властью, которые по своему скудоумию решились поднять руку на такую красоту! По указке главы Круглянской районной администрации господина Гоборева в Круглянском районе уже уничтожены тысячи деревьев и кустарников. Едешь сейчас по дорогам Круглянского района — и сердце кровью обливается, когда видишь сплошные пни вдоль дорог.

Началось массовое уничтожение зеленых насаждений в самом п.г.т. Круглое, в других населенных пунктах района. Видно, так господин Гоборев и другие чиновники понимают президентскую программу "Наведение порядка на земле".

**Жители Круглянского района:**
**А.Н.НИКИТИН,**
**Г.А.ВОЛОЖИН,**
**Н.Н.САМОЙЛОВ,**
**В.В.ЯКУТА,**
**П.В.ЛЮБИН.**

## Яшчэ не позна прыняць правільнае рашэнне

*Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь*
*Брыгадзіну Пятру Іванавічу*

Мы звяртаемся да Вас з просьбай прыслухацца да нас — бацькоў навучэнцаў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа — і перагледзець рашэнне аб прызначэнні на пасаду дырэктара ліцэя Т.Г.Шчарбачэвіч. Мы лічым, што чалавеку такіх маральных і інтэлектуальных якасцей нельга давяраць выхаванне нашых дзяцей.

Па-першае, пры прызначэнні на пасаду дырэктара адзінага ў краіне Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя, куды паступаюць вучыцца дзеці з усёй нашай краіны, павінны ўлічвацца асабістая кваліфікацыя і дасягненні ў справе развіцця сістэмы адукацыі Беларусі. Між тым ні навуковых прац, ні артыкулаў, ні метадычных распрацовак у Шчарбачэвіч няма. Больш за тое, дырэктар Нацыянальнага ліцэя павінен дасканала ведаць родную беларускую мову, на якой вядзецца навучанне ў падпарадкаванай яму ўстанове. Але новы дырэктар мовы не ведае, таму ставіцца пытанне, ці валодае яна ў неабходным аб'ёме і беларускай культурай, каб кіраваць навучальнай установай, у назве якой падкрэсліваецца нацыянальны і гуманітарны напрамкі навучання.

Па-другое, адразу пасля прызначэння новы дырэктар пачала паводзіць сябе з намі самым некарэктным чынам: адмаўлялася адказваць на пытанні бацькоў і навучэнцаў, нягледзячы на запрашэнні, адмаўлялася прыходзіць на бацькоўскія сходы, хавалася ад сустрэч з ліцэістамі за сцяною шафы ў бухгалтэрыі. Такім чынам, усё пералічанае не дае нам падставы яе паважаць, а самае галоўнае — давяраць ёй выхаванне нашых дзяцей.

Мы, бацькі вучняў ліцэя, так і не пачулі канкрэтнага адказу, чаму менавіта нельга прызначыць на пасаду дырэктара ліцэя з падпісаннем кантракта сп. Ул.Коласа, які быў адным з заснавальнікаў ліцэя і столькі гадоў узначальвае педагагічны калектыў.

Магчыма, яму не хапае адукацыі і вопыту?

Магчыма, ён не валодае беларускай мовай, як сп.Шчарбачэвіч?

Магчыма, ён здзейсніў крымінальнае злачынства?

Магчыма, ягонае маральнае аблічча несумяшчальна з працай па выхаванні дзяцей?

Магчыма, Міністэрства адукацыі і Вы асабіста валодаеце інфармацыяй, якая невядома нам?

У гэтым выпадку падзяліцеся ёю з намі, і, магчыма, мы з Вамі пагодзімся. Нагадваем Вам, што год таму бацькі ўжо звярталіся да Вас з прапановай прызначыць на пасаду дырэктара сп.Ул.Коласа. Міністэрства адукацыі адказала, што пытанне будзе вырашана пасля атэстацыі ліцэя. **Атэстацыя не праводзілася.** Акрамя таго, менавіта ў гэтыя дні прадстаўнікі санэпідэмстанцыі і гарвыканкама пагражалі закрыць ліцэй, таму што будынак патрабуе рамонту. Сп.Колас выцягваннем грошай з бацькоў на рамонт не займаецца, як гэта робяць у шмат якіх школах.

Адкажыце, калі ласка, калі ліцэй атрымае тыя грошы (здаецца 6 млн. руб.), якія яму выдзелены?

30.05.03 г. прадстаўнікі бацькоў навучэнцаў ліцэя сустрэліся з Вамі асабіста і перадалі наш зварот. **Канкрэтнага адказу на наша галоўнае пытанне мы не пачулі** ні 02.06.03 г. пасля нарады ў міністэрстве, ні 06.06.03 г. пасля сустрэчы сп.Фарыно К.С. з кіраўніцтвам ліцэя. Мы так і не зразумеем, на чым грунтуецца пазіцыя міністэрства ў гэтым кадравым пытанні. У рэшце рэшт, чаму не пакінуць становішча ў ліцэі такім, якім яно было да пачатку ўсіх гэтых падзей? Няхай сп.Ул.Колас застаецца намеснікам дырэктара, а дзеці спакойна вучацца далей.

Мы звяртаемся да Вас з надзеяй, што яшчэ не позна, што ёсць магчымасць разабрацца ў канфлікце і прыняць адпаведнае і правільнае рашэнне, ад якога будзе залежаць будучы лёс нашых дзяцей.

З павагай ад імя бацькоў навучэнцаў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа:

**А.І.ВАРАЧАЕВА,**
**А.К.САНЬКО, Г.А.ПАНОВА,**
**С.М.ЗАНКЕВІЧ,**
**В.А.КАЛЕСНІКАЎ,**
**Л.М.ПУЦІКАВА,**
**С.П.ГЛІННІКАВА,**
**Т.І.БАХТАЗІН,**
**Б.Н.ГРАЗНОВА.**

